№ 2 ДЗІЦЯЧЫ ТЭАТР № 2

# СІРАТА

СЦЭНІЧНЫ АБРАЗОК у АДНЭЙ ДЗЕІ.

Ю. ІГАРЭВА.

З украінскага перарабіла З. ВЕРАС.



ВІЛЬНЯ о о о 1929 ГОД.

# АСОБЫ

Янка 10-гадовы сірата

Алёнка
Саўка
Міхась
Зося
Алесь
Галя
Антось
Пятрусь
Вуыцелеь

— Мястовыя дзеці школь-кі, ад 8 — 13 гадоў.

Рэч адбываецца у павятовым месьце.

№ 2 ДЗІЦЯЧЫ ТЭАТР № 2

# СІРАТА

СЦЭНІЧНЫ АБРАЗОК у АДНЭЙ ДЗЕІ.

Ю. ІГАРЭВА.

З украінскага перарабіла З. ВЕРАС.



ВІЛЬНЯ о о о 1929 ГОД.

## ЗЬЯВА І.

Сцэна. Сад у павятовым месьце. Зіма. Вее вецер, падае сьнег, Відаць рэг хаты стоража. Янка выходзіць з левага боку, трасецца з холаду і хаваецца ў зацішнае мейсца за рог хаты. У руках трымае і туліць да сябе дзіраваю торбачку з кніжкамі.

ЯНКА. Вось тут атпачыну хвілінычку, перачакаю вею, бо ўжо занадта дзьмець. А халодны вецер--да касьцей мяне пераняў... Ой, цяжка, цяжка сіраце... Нікто ня прытуліць, не абагрэе, не пацікавіцца, як я дам сабе рады ў вялікім горадзе і як я траплю да якой колечы школы.

(Вецер вее далей. Хлапец прысядае у куточку і дрэмле. Вея памалу сьціхае).

За сцэнай здалёк чуваць хор галасоў.

Наляцелі гусі
Ды спад Беларусі.
Селі яны, палі
На ціхім Дунаі.

Селі яны палі
Замуцілі воду...
Цяжка сіраціне
Бяз долі, бяз роду.

## ЗЬЯВА ІІ.

(Алёнка злевага боку выбягае з санкамі, на якіх сядзіць Саўка; гаворыць жартуючы).

АЛЁНКА. Ану, Саўка ўставай панок, будзе ўжо з цябе, даволі!

САЎКА. Яшчэ раз, Алёнка, адзін разочак і зараз зьлезу.

Алёнка вязе яго праз сцэну. Саўка злазіць Алёнка сядае.

САЎКА (едзе праз сцэну). Но, но! мая шаноўная пані! Трымайся!

АЛЁНКА (пабачыўшы сьпячага Янку). Пачакай, пачакай!.. Затрымайся Саўка.

САЎКА (затрымаўшыся). А што там? Хочаш ужо злазіць?.. Гэта добра, я сесьці гатоў...

АЛЁНКА. Пакінь жартаваць, вось паглядзі хто гэта там у кутку за хатай?

САЎКА (аглядаецца.) Дзе? Што? Ага! Хто там сядзіць? Жабрак або п'яны! Сьпіць, а мо памёр?

(Абое пужліва падходзяць і прыглядаюцца).

АЛЁНКА. Ой не! гэта хлопчык — бедны. Паглядзі якія ў яго парваныя боты! І вопратка якая благая! Ён увесь пасінеў і дрыжыць. Магчыма што ён ішоў жабраваць.

САЎКА. Клікну хлапцоў: Гэй! гэй, хлопцы Кіньце санкі і хадзіце сюды!

АЛЁНКА. Хутчэй, мы нешта знайшлі!

САЎКА і АЛЁНКА (разам): Хадзіце хутчэй!

## ЗЬЯВА III.

Убегаюць дзеці, Міхась, Зося, Алесь, Галя, Пятрусь і Антось.

ПЯТРУСЬ. А што?

ЗОСЯ. Чаго?

МІХАСЬ. Хто нас клікаў?

АЛЕСЬ. Што тут у вас сталася?

АЛЁНКА. Глядзіце! Вось у куточку сядзіць нейкі бедны хлопчык. Ён замерз, увесь дрыжыць.

УСЕ (разам). Ааа! Хто гэта? Скуль?

АЛЕСЬ. Ён пэўне нейдзе з вёскі!

АНТОСЬ. Прыйшоў абарваны, ў такі холад аж сюды!

МІХАСЬ. Ён пэўне зьмерз і быццам сьпіць.

ЗОСЯ. Ой бедны! Як ён дрыжыць страшэнна.

ГАЛЯ. Збудзім яго, няхай нам скажэ: хто ён такі, куды і чаго ідзе...

УСЕ (разам). Збудзім, збудзім! нехай нам скажа!

АЛЕСЬ (будзіць Янку). Хлопчык, хлопчык! ўставай.

ЯНКА (зьдзіўлены глядзіць на дзяцей).

АНТОСЬ. Ня бойся! Мы цябе ня скрыўдзім Ты нам толькі скажы: скуль ідзеш і хто ты такі?

МІХАСЬ. Дзе твая хата, мы хочам ведаць...

АЛЁНКА. Дзе твой бацька і маці?

ГАЛЯ. І хто цябе сюды паслаў?

ЗОСЯ. Чаму ты спаў на марозе?..

УСЕ. Так, так; ўсё нам раскажы; мы табе крыўды ня зробім!

ЯНКА (падымаецца з зямлі, дрыжучы ад холаду). Я сірата, бяз бацькі і маткі і бяз нікога на сьвеце. Бацьку майго забілі на вайне, а маці і дзьве мае сястрычкі нядаўна паўміралі. Я астаўся адзін. Добрыя суседзі давалі мне, хто лусту хлеба, хто лыжку стравы, але яны самыя людзі бедныя, лішняга ня маюць. І я кінуў вёску прыйшоў сюды шукаць хлеба куска і — школы роднай (паказвае дзецям торбачку з кніжкамі). Вось ўсё, што маю найдаражэйшага — пару кніжак і сшыткоў! І я вучыўся; вучыла мяне маці, бо у нас ў вёсцы школы німа. І цяпер бяз навукі я жыць-бы ня мог... Ішоў я доўга у голадзе і ў холадзе, але думаў, што ў месьці адразу ўсё будзе добра... А цяпер, як прыйшоў, ня ведаю дзе дзецца, і хто мне паможа... (абцірае рукавом вочы).

ЗОСЯ. Ой бедны! Які-ж ты, пэўне, галодны!

## ЗЬЯВА IV.

З правага боку ўходзіць вучыцель.

ВУЧЫЦЕЛЬ. Што-ж тут у Вас, дзеці, нова-га? Не гуляеце? Што-ж сталася?

АЛЁНКА. А, пан вучыцель! Мы вось тут спаткалі гэтага хлопчыка-сірагу!

ЗОСЯ. Прыйшоў ён бедны з далёкай вёскі, у такую сьцюдзёную зіму.

ГАЛЯ. Ён маткі не мае, памерла, а бацька забіты на вайне; а ён хоча вучыцца, прышоў шукаць роднай школы.

АЛЁНКА. Нашыя хлопцы пабеглі дамоў, па-шукаць яму цяплейшае вопраткі.

## ЗЬЯВА V.

ПЯТРУСЬ (ўбягае з ботамі). Вось, абувай! цяплей табе ў ногі будзе.

АНТОСЬ (надходзіць з шапкай). Скінь свой парваны капялюш, бяры маю цёплую шапку.

САЎКА (нясе кажушок). Надзень, зараз абагрэешся.

АЛЕСЬ (нясе нагавічкі і пару кніжак). Маеш. (дае нагавіцы). Хоць ня новыя, але зусім яшчэ цёплыя. А гэта пару кніжак — цікавыя...

ЗОСЯ (бярэ Янку за руку). Які ён халодны, як лёд, — да нас павяду цябе абедаць.

ВУЧЫЦЕЛЬ. Як добра вы, дзеці, зрабілі, што так шчыра прынялі сірату! Каб усе дзеці былі такімі, лепшая пара на сьвеце-б настала, прапала-б гора і н э н д з а. У шчырай, братняй помачы—вялікая сіла.

